Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

**№ 16** Серада, 25-га ліпня 1923 г. **Год I.**

## Пагроза для Усходу.

Нядаўна ў нашай газэце была надрукована стацьця аб адносінах паміж Польшчай і Саюзам Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік. У гэнай стацьці было паказана, што імкненьні беларусаў і інтарэсы Польскага гаспадарства бязумоўна зыходзяцца ў адным: гэта — ў пытаньні аб устанаўленьні нармальных адносін паміж Польскай Рэчыпасполітай і С.С.С.Р.

Міністар заграннічных спраў у пястоўска-хіенскім урадзе, пан Сэйда, у гэтым пытаньні заняў дужа выразнае становішча, якое зыходзіцца з запраўднымі эканамічнымі патрэбамі Польшчы, ды накінута саюзьніцай Польшчы, Францыяй. Справа ў тым, што Францыя ня губляе яшчэ надзеі на аднаўленьне француска-расейскага саюзу, — ведама, саюзу з так-званай „Расеяй будучыны", што быццам-то мае замяніць сабой сучасны Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік. Але Францыя баіцца, каб ёй не перабіла гэтага „інтарэсу" Нямеччына. І вось французы стараюцца ўсяляк прыцiскаць Нямеччыну, каб зрабіць яе на будучыну эканамічна няшкоднай, і цкуюць усьцяж проці немцаў Польскую дзяржаву. 40⁰/₀ усяго бюджэту Польшчы зьядае армія, якая існуе дзеля таго, каб пужаць Нямеччыну з Усходу, не даючы ёй злучыцца з С.С.С.Р. Пакорны саюзьніцкім загадам, міністар заграннічных спраў, пан Сэйда, зусім выразна заявіў, што польская палітыка меціме на мэце жыць у згодзе з усходнімі суседзямі, значыцца з С.С.С.Р., за тое асабліва пільную ўвагу будзе зварачаць на Захад, значыцца на Нямеччыну.

Мы думалі, што заявы міністра замежных спраў маюць у польскай палітыцы нейкую вагу: тое, што ён кажа, павінна адбіваць настроі ўсяго ўраду. Ды дзе там: аказваецца, што першы выступіў проці свайго міністра заграннічных спраў старшыня ўраду, сам пан Вітос.

Пан Вітос 17 ліпня сказаў на мітынгу ў Тарнове прамову, у якой высказаў зусім процілежны пагляд. Ен сказаў даслоўна:

„На Захад мы пасоўвацца ня будзем, мы павінны пасоўвацца на Усход".

Гэта ўжо зусім другая песьня, чым заявы пана Сэйды. Тутака чуецца выразная пагроза па адрасу С.С.С.Р. І чы не затым паны Дубяйкоўскія і Ладновы „фабрыкуюць" савецка-літоўскія „змовы" проці Польшчы, каб загадзя падгатаваць польскае грамадзянства да новае ваеннае авантуры кшталтам знамянітага паходу пана Язэпа Пілсудскага на Кіеў?..

Польская прэса зварачае вялікую ўвагу на выступленьне пана Вітоса ня толькі затым, што польскі прэмьер кідае грозьбы Усходу, але і затым, што дужа дзіўнае ўражаньне робіць пястоўска-хіенскі ўрад, у каторым, паводле польскае прыказкі, „jeden idzie do sasa, a drugi do lasa". Як пры такіх варунках пан Вітос і пан Сэйда адважаюцца яшчэ некаму пагражаць?!

**аль.**

## Нацыяналізацыя праваслаўнае царквы.

Тое, што робіцца цяпер у праваслаўнай царкве, прымушае зварачаць на яе асаблівую ўвагу ня толькі праваслаўных беларусаў, але і ўсіх беларусаў наагул.

Ня будзем тут гаварыць аб развале праваслаўнае царквы ў Савецкіх Рэсп., аб утварэньні тамака так-званай „Жывэй Царквы". Адзначым толькі два мамэнты гэтае справы.

Першы мамэнт — гэта тое, што царкоўная ломка зьяўляецца тамака простым і нямінучым вынікам таго палажэньня, якое ў ходзе гістарычных выпадкаў было вызначана праваслаўнай царкве ў старой Расеі. Праваслаўнае духавенства было абернена ў паслухмяны орган царскае ўлады, за што карысталася рознымі важнымі прывілеямі. Савецкая ўлада захацела выкарыстаць гэтае палажэньне праваслаўнага духавенства дзеля ўмацаваньня ў народзе свайго аўторытэту і пачала прымушаць духавенства іграць тую-ж ролю пры новым урадзе, але ніякіх прывілеяў царкве не дала. І гэта—аснова таго, што зрабілася ў расейскім царкоўным жыцьці.

Другі мамэнт — гэта аддзяленьне украінскае праваслаўнае царквы ад агульна-расейскага пня.

Ды не ў аднэй С.С.С.Р. творыцца нешта падобнае. Газэты прыносяць вестку з Канстантынопалю, што пад націскам турэцкага ўраду Канстантынопальскі патрыярх Мэлетос быў прымушаны кінуць сваю сядзібу і выехаць у манастыр на Афоне. Праваслаўная царква ў Турэччыне, меўшая дагэтуль нацыянальны грэцкі характар, нацыяналізуецца на турэцкі лад — дзеля таго, што, апрача грэкаў, варожа настроеных да Турэцкага гаспадарства, ёсьць тамака жменя праваслаўных туркаў.

Яшчэ нешта падобнае бачым мы ў Польшчы, але тое, што тутака робіцца, па сваёй беспадстаўнасьці далёка выпярэдзіла Турэччыну.

Тое, што праваслаўная царква ў Польшчы абвешчана аўтокефальнай і незалежнай ад расейскага праваслаўя, у некаторай меры можа яшчэ быць апраўдана з боку дзяржаўных інтарэсаў Польшчы, якая ня хоча, каб у духоўным жыцьці сваім тутэйшае праваслаўнае насяленьне падлягала замежным уплывам (з Масквы). Але польская ўлада ня спынілася на тым, каб зрабіць праваслаўе ў Польшчы самастойным: не, яна зусім выразна імкнецца да таго, каб даць яму чыста польскі нацыянальны характар, — коратка кажучы, **спольшчыць** яго.

Калі-б хаця невялікая частка польскага народу была праваслаўнае веры, дык такое імкненьне ўлады было-б зразумелым. Ды справа ў тым, што праваслаўных палякоў няма зусім, а да праваслаўнае царквы належаць выключна беларусы і украінцы, ды малая жменя расейцаў.

Беларусы і украінцы вядуць ужо некалькі гадоў працу ў кірунку нацыяналізацыі царквы, ў кірунку замены ў ёй расейшчыны беларускай і украінскай мовай. Такая замена мае нязвычайна вялікую вагу для нашага нацыянальнага ўзмацаваньня. Але гэта аказалася якраз не да спадобы і тэй малой жменьцы маскалёў, што дагэтуль верхаводзілі ў царкве, і палякам. І вось мы бачым зусім неспадзяваны паварот у царкоўнай палітыцы: як нас паведамляюць, за дробныя ўступкі матар'яльнага характару, за „upaństwowienie" віленскае духоўнае сэмінарыі верхаводы нашага духавенства — маскалі быццам-то гатовы згадзіцца з пераходам навучаньня ў сэмінарыі на польскую мову, гатовы ўвясьці польскую мову і ў самую царкву. Тыя самыя людзі, якія баранілі расейшчыну ў царкве, калі беларускае грамадзянства імкнулася да зусім зразумелае і справядлівае замены яе жывой мовай беларускага народу, цяпер з лёгкім сэрцам гатовы адрачыся расейшчыны на карысьць польскае дзяржаўнае мовы, бо... гэта суліць ім матар'яльную карысьць...

Ці гэта праўда?!

Ведама, беларускае праваслаўнае грамадзянства ніколі на гэта сваей згоды ня дасьць і будзе далей змагацца за зьбеларушчаньне праваслаўя, незалежна ад таго, ці ўгадовыя маскоўскія элемэнты будуць дзяржацца расейшчыны, ці папрабуюць навязаць нашаму народу зусім чужую для яго польскую мову. А перагаворы аб спольшчаньні праваслаўя, якія пацiху вядуцца за плячыма насяленьня, незалежна ад іх вынікаў, аканчальна здыскрэдытуюць у вачох нашага народу тыя маскоўскія элемэнты, якія, дзякуючы палітыцы царскага ўраду, гэтак крэпка ўмацаваліся сярод праваслаўнага духавенства ў Беларусі.

**Безстаронны.**

**Суліма.**

## „Капітан" Лазарау.

**(Партрэт—спраўка).**

*Увазе стараабрадцаў Сьвянцянскага округу.*

У часе судовага сьледзтва на працэсе беларусаў у Беластоку досыць часта ўспаміналася прозьвішча „быўшага ахфіцэра расейскай арміі Лазарава", ня гледзячы на тое, што п. Лазараў зусім ня быў у ліку сьведкаў па гэтай справе—ні зьявіўшыхся, ні не зьявіўшыхся.

Галоўны сьведка з боку дэфэнзывы, кап. Ярэцкі, капітан польскага войска, з Д. О. К. III, шэф II аддзелу Генар. Штабу на тэрыторыі Горадні і Сувалак, які, як сам ён заявіў на судзе, кіруе „контр—разьведкай і вядзе барацьбу з шпіёнствам у паказаным раёне, а таксама *спэцыяльна ізучае рух і настроі няпольскіх нацыянальнасьцей*—у інтарэсах польскай арміі, *і зьвярнуў даўно асаблівую ўвагу на беларускі нацыянальны рух, з ягонай варожай да Польшчы, падтрымліваемай з-за граніцы, тэндэнцыяй*". (Гл. „Црыгавар у аканчальнай форме, стар. 50),—паказаў на судзе, што са слоў быўшага рускага ахфіцэра Лазарава, ведае, што Сяргей Баран за сваю працу па кіраўніцтву ўсей дзейнасьцю беларускай арганізацыі, у тым ліку і дзейнасьцю шпіёнскай, на карысьць Літвы, атрымоўваў ад апошняй грошы".

Капітан Ярэцкі паказаў, што чытаў паказаньні Лазарава па другой справе, з якіх відаць, што „абвінавачаны Якавюк быў у пастаянных зносінах з Разумовічам і арганізоўваў паўстаньне ў Польшчы".

Сам сьведка Ярэцкі двойчы назваў п. Лазарава сваім „агентам" і двойчы „інфарматарам".

Можна быць рознага перакананьня аб тым, што павінны і чаго не павінны рабіць у Польшчы быўшыя ахфіцэры расейскай арміі... Але, калі, нават наогул дапусьціць магчымасьць для непалякаў дзеля куска хлеба супрацоўнічаць у ўстановах „па спэцыяльнаму ізучэньню настрояў і рухаў сярод няпольскіх нацыянальнасьцей у Польшчы, ды й профэсыянальная мараль вымагее дабрасуменнасьці ў гэтай працы.

З абвешчаных на судзе паказаньняў сьведкі Сьлюсарчыка кіраўніка паліт. аддзелу 5 f. Дзярж. Паліцыі ў Горадні відаць, што той самы б. ахфіцэр Лазараў даў паліцыі інфармацыі адносна 18 асоб, з якіх 14 было зусім звольнена сьледаваццелем, дзеля поўнай адсутнасьці улікаў, а 4 з іх ліку нават фігуруюць, як сьведкі з боку абвінавачаньня ў той-жа справе...

Той самы капітан Лазараў паказаў кап. Ярэцкаму, як на *супольніка Барана* на нейкага Пузырэўскага (recte: Сяргея Пузырова), які аказаўся... такім-жа агентам, як і сам Лазараў...

Значыцца п. Лазараў—ня толькі шкодны для насяленьня і не карысны, для паліцыі, але і не заслугоўваючы на даверыя агент...

Але і гэта яшчэ—ня ўсё.

У часе апошніх выбараў у Палаты Польскай Рэспублікі ў Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт зьявілася дэлегацыя да ўсіх арганізаваных стараабрадцаў Сьвянцянскага округу і зрабіла з Камітэтам умову аб тым, што за *трэцяе* месца ў агульным сьпіску стараабрадцы аддаюць усе свае галасы сьпіску № 16.

У ліку дэлегатаў быў і быўшы капітан расейскай арміі Лазараў...

Капітан Лазараў—адзіны з усіх дэлегатаў—вёў актыўную працу, прыяжджаў за інструкцыямі, літэратурай, грашмі; грошай асабіста атрымаў вялікую, па меўшымся ў Камітэце срэдствам, суму...

